 

# Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Беластоку — № 11

Андрэй Сошка

## Няхай

Няхай ружы квітнеюць раннем,
Няхай пахнуць яны нам няспынна,
Хай калоціцца сэрца каханнем
Для цябе, дарагая краіна.

Няхай яблыкі ў садзе спеюць,
Хай жаўцее ў полі лубін.
Хай зямля наша ўся залацее,
Хай здаволены будуць людзі.

Няхай песні співаюць дзяўчаты
Ад ўсходу да захаду сонца.
Хай вясковыя родныя хаты
Абнаўляюцца песняй бясконцай.

Няхай бэз ля вакон ап'яняе,
Няхай пнуцца ля плота шыпшыны.
Хай жыццё новы шлях пракладае,
Хай асфальт ўсе залье каляіны.

Хай багата калосіцца жыта,
Хай ў чырвоных пацёрках рабіна
Размаўляе з бязмежным блакітам
Аб табе, Дарагая Краіна.

Мікола Базылюк

## Вечарам

На заходзе зара тлее,
Мора соннае пляскоча.
Ночка моўчкі чары сее,
То на бор яна наскочыць.

Плыве месяц поўнатвары,
Яму неба — акіян.
То схаваецца за хмары,
То залье святлом дзірван.

Зоркі месяцу міргаюць:
— Хадзі з намі пагуляць!
З-пад хмурынак пазіраюць
І саромліва дрыжаць.

Дрэвы шэпчуць казкі - цуды
Аб пралесках і вясне.
Цішыня... Паснулі людзі
Аднаму не спіцца мне.

Пад акном сяджу, сумую,
Гляджу месячыку ў твар.
Зоркі светлыя рахую,
Налічыў іх сотні пар.

На заходзе зара стлела.
Гімн закончыўшы вясне
Рэчка стужкай забялела...
І чаму ж так сумна мне?

ЯША БУРШ

* * *

Я
проціў вас
хто рве квітненне
праз кроў
хто сее
на гарызонтах
матчыных надзей
радыёактыўны пыл
хто ім
засыпае след
надзей
якімі
сцеле шлях дзень
што ў заўтра
уплятаецца жыццём
проціў вас
нерасцвіўшая галінка
проціў зелянеюць палі
падымаецца збажына
кветкі паказваюць пупышкі
з-пад зямлі
птушкі
прыляцелі веснаваць
усё звяр'ё марцуе
проціў вас
маленства вучыцца гаварыць
проціў вас
усё прагне
жыць.

Журауская *)



## Афрыканскія песні

Бачыце, пані, — пачаў пазней, — спачатку паехалі ў Бельгію.

Стары гаварыў паволі, робячы перапынкі амаль па кожным слове.

— Працаваў там у капальні. Цяжка было. Але неяк канец з канцом вязаўся. Там жа прыйшлі на свет, пане свяці над іх душамі, Кахна і Вэронка. Разам. Зрабілася цяжэй. Але яшчэ можна было вытрымаць. Трэба няшчасця, у капальні выбух пажар. Казалі, што гэта бунт. Узялі на следства. Бог мне сведкаю, нічога з тым я не меў. Сказалі, што і я мачаў у тым пальцы. Выкінулі з працы. Збіраў бутэлькі па сметніках, крыху жабраваў. Рабілася, што падышло. Дома хворая матка і галодныя дзеці — пані разумее.

Глянуў на мяне, як бы хацеў упэўніцца, ці сапраўды разумею. На хвіліну замоўк. А потым працягваў:

— Калісь прыйшлі з капальні тыя, з кім рабіў. Добрыя людзі. Кажуць: «Слухай, рабем бунт. Падпалім капальню. Ты і так не працуеш. А яны выкінулі цябе за тое, што падпаліў. Дык падпалі ім, сабачым братом. Хай будзе справядліва». Падбухторылі мяне так, што падпаліў. Хтось выдаў. Але тыя, што мяне намаўлялі, памаглі. Далі паперы, крыху грошай, адрас і сказалі, каб уцёк у Амерыку, бо паважная справа. Так мы і зрабілі.

Стары чалавек спыніўся, выняў хустачку і абцёр пот з твару і шыі.

На вуліцы рабілася халадней. Вецер не ўціхаў.

— З Амерыкі пазней паехалі ў Францыю, — сказаў вельмі нізкім, дрыжачым голасам, хутка, як бы асцерагаўся, што за хвіліну тых слоў ужо не выскажа.

— У Францыю... — паўтарыў у задуменні.

Жанчына пацягнула носам. Выраз яе твару ў гэту хвіліну быў страшны. Ізноў запанавала маўчанне.

— І там страцілі сёння апошняе дзіцё — сына, — сказала свісцячым, раздражненым шэптам.

А ён згорбіўся, пахіліўся да зямлі. Выняў з кішэні хустку — абцёр лоб. Я нічога не разумела.

— Можа гэта няпэўная вестка, — прабавала я суцяшаць.

Стары чалавек глянуў на мяне. Спыніўся. Мне здалося на момант, што ў яго вялікіх, цёмных вачах затлілася надзея. Рушыў энергічна з месца.

— Пэўная, пэўная вестка, — сказаў ціха, ледзь чутна, як бы ў думках.

— Ашукаць бацьку, матку, — шаптаў штораз мацней, жэстыкулюючы і дадаючы кроку, — ...зняважыць іх кроў, іх працу, іх гонар... О, гад... лепш бы памёр у калысцы... Ёсць у Легіі, бо любіць мундзір і падарожжа... У Афрыцы хораша, піша. Толькі часта мусяць супакойваць насельніцтва. ...Супакойваць — знішчаць, забіваць...

Мы ішлі штораз хутчэй. Не многа можна было зразумець з тых урыўкаў сказаў. Жанчына задыхалася. Плакала.

— ...Бо насельніцтва на іх нападае, — разумееце, — звярнуўся да мяне стары з балючай іроніяй у голасе.

Не быў гэта ўжо голас таго спакойнага старычка. Была ў ім горыч і драпежнасць.

А яны такія самыя людзі, як мы. Гуляюць, пяюць...

— А як яны пяюць? Грамадзянка, чулі, як гэты спеў сэрца раздзірае? — ізноў звярнуўся да мяне

Не чакаў маёй рэакцыі.

— ... Мяне, бацьку, так ашукаць, — працягваў з расчуленасцю, — ...«насельніцтва нападае», «варвары»... Сам варвар...

— Я чуў, як бы крычалі да мяне, каб ім памог. І зараз мне прыпомнілася мая цэлая паняверка. Ажно мне скура сцерхла пры думцы што можа яны там гэтак сама жывуць... Гэта не пяюць шчаслівыя людзі...

— І зразумеў, што той сын, адзіны сын, дзеля якога мы з маткаю сабе кусок хлеба ад вуснаў аднімалі... ашукаў мяне, — словы гэтыя выкрыкнуў амаль плачучы.

Звольніў крок.

— Ён іх супакойвае, бо хочуць жыць так, як бацька і матка хацелі, каб ён жыў: сумленна і негалодна...

— А бадай бы зямля пад ім завалілася. А бадай быў ніколі не нарадзіўся.

— Грамадзянка, казалі па радыё, што там хваляванні, што трупы, а я, стары, ашуканы бацька верыў, што мой Франак там сумленна жыве, — гаварыў задышаным голасам. — Адкуль ён мае грошы на тое, каб так багата жыць, як піша, на тое, каб бацьку і матцы гадзіннікі залатыя купіць?!

— ...Ён гэтае золата выціскае з людской крыві... А я даўся ашукаць... даўся ашукаць...

Не ведаў, што рабіць. Што гаварыць. Твар меў бледны, скрыўлены балючым скурчам, драпежны, страшны. Быў, як непрытомны

Мы ішлі зусім вольна. За кожным пастаўленым крокам старычок цяжка аддыхваўся. Нічога ўжо не гаварыў. Падняў галаву і глянуў перад сабою.

Прайшлі некалькі дзесяткаў крокаў.

— А што, пэўная вестка? — запытаў ненатуральным, спакойным голасам, звярнуўшы позірк у мой бок.

Я нічога не адказала.

— Ангельцы пані хай скажа, што прыдзем да іх у нядзелю, — азваўся па хвілі стары паспакайнеўшым голасам. — Дам пані наш адрас. Самі не трапім.

Прыпыніўся пад ліхтаром. Выняў з кашалька адрас. Я не прабавала запісваць. Добра вядомы мне прафсаюзны дом.

Шныраў, шныраў у кашальку. Што раз мацней трасліся яго рукі. Раскалочанымі зусім пальцамі выняў фотаздымак. Малады хлапчук у мундзіры, усміхаючыся стаяў каля пальмы. Характэрны для чужаземцаў здымак.

— Гэта ён сёння памёр, — сказаў стары чалавек пераканаўча, гамуючы з усіх сіл слёзы, якія ціснулі горла. Вырваў здымак з рук плачучай маткі і падзёр, кідаючы кавалкі на тратуар.

— Стары, можа ён зменіцца, можа вернецца, як яму напішам, — выбухнула жанчына ўмольным голасам.

Стары чалавек абцёр хусткаю твар. Пахіліўся над тратуарам. Раптам выпрастаўся. Глянуў на жанчыну і на мяне. Укленчыў на адно калена і вольна, як бы ў роздуме, пачаў збіраць кавалкі фатаграфіі.

*) Друкуем урывак апавядання нашага новага аўтара



 



## КІТАЙ

Тэме гераічнай барацьбы Народна - вызваленчай арміі Кітая супроць гаміндanaўскіх войск прысвечаны фільм «Разведка за ракой». Фільм расказвае аб самаахвярных дзеяннях разведчыкаў, якія садзейнічалі паспяховаму фарсіраванню ракі Янцзы.

* * *



## ФРАНЦЫЯ

«Цана страху» — рэжысёра Клузо. Недарэчна дабівацца шчасця ў жыцці, прадаючы гэтае жыццё. Так можна зрабіць толькі тады, калі чалавек знойдзецца ў крайняй роспачы. І фільм проста паказвае на тых, хто даводзіць людзей да роспачы, хто купляе іх жыццё за долары і штурхае на смерць.

Незайздросна выглядаюць у фільме гаспадары нафтавай кампаніі. Яны адважныя, калі маюць справу з адзінкамі, але баяцца калектыву і шукаюць помачы паліцыі, каб справіцца з жонкамі рабочых, якія сабраліся на мітынг пратэсту.

* * *



## Г.Д.Р.

«Эрнест Тэльман — сын свайго народа»—адзін з лепшых фільмаў кінастудыі ДЭФА. Падзеі ў фільме разыгрываюцца ў канцы вайны 1914 — 1918 г. Рэвалюцыя ў Расіі і голас Карла Лібкнехта і Ружы Люксембург дзейнічаюць на розумы нямецкіх салдат і рабочых, даведзеных пагубнай вайной да голаду. Яны паўстаюць супроць вайны, за мір паміж народамі.

Сярод салдат выдзяляецца докер з Гамбурга — Тэльман.

# ВЯЛІКІ
# ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС

ЯНКА КУПАЛА
ЯКУБ КОЛАС
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ
МАКСІМ ТАНК
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ
ЯКУБ КОЛАС



1

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.



2

— Жартуеш? — крыкнуў пан не сваім голасам. — Спявай!

Салавей усміхнуўся, трохі як бы занепакоіўся, горда зірнуў на пана, выпрастаўся, як нацягнутая струна, і больш цвёрдым голасам сказаў:

— Не хачу быць панскім салаўём!



3

У тонях, як
у люстраных шыбах,
Адбіты скалы,
Вяршыні Татраў,
І між цяністых
Ялін і лімбы
На самым схіле
Гураля хата.

**Рэдакцыя «Нівы» і Галоўнае Праўленне БГ-КТ у сувязі з «Днямі асветы, кнігі і друку» арганізуюць вялікі літаратурны конкурс.**

**Пад кожным малюнкам чытач знойдзе ўрывак з твора, загаловак і аўтара якога трэба адгадаць. Урывак і малюнак дапамогуць чытачу ў гэтым.**

**Аўтараў твораў падаем вышэй. Увага, аўтары пададзены не ў такім парадку, як нумары малюнкаў і ўрыўкаў.**

## Узнагароды

**І — ФОТААПАРАТ,**

**ІІ — КАМПЛЕКТ ДА ПІСАННЯ (ВЕЧНАЯ РУЧКА і ВЕЧНЫ АЛОВАК).**

**ІІІ — КАМПЛЕКТНАЯ БІБЛІЯТЭЧКА (10 ТАМОЎ)**

**І 10 КНІЖНЫХ УЗНАГАРОД.**

**Тэрмін дасылання адказаў да 17 мая.**

**УВАГА! Адказы дасылайце на купонах, пададзеных ніжэй, на адрас: Рэдакцыя «Нівы», Беласток, вул. Весялоўскага 1 (літаратурны конкурс).**



4

«Скурганіў бы душу чырванцом тваім я,
Гуслям, княжа, не пішуць законаў:
Небу справу здае сэрца, думка мая,
Сонцу, зорам, арлам толькі роўна».




5

І тут у першы раз Міхала
Вось гэта думка напаткала:
Купіць зямлю, прыдбаць свой кут,
Каб з панскіх выпутацца пут,
І там зажыць сабе нанова:
Свая зямля — вось што аснова!



6

Нарэшце дзед Талаш — партызанскі камандзір. Праўда, войска яго яшчэ павялічыцца і значна павялічыцца — на гэты конт сякі - такія меры ўжо прыняты. Чырвоныя камандзіры прынялі яго ў сваю сям'ю, іменна, як камандзіра і свайго чалавека. Хіба гэта не гонар дзеду Талашу?

## КУПОН

| № | Аўтар | Загаловак твора | Адрас: Імя | Прозвішча | Мясцовасць | Пошта | Павет |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | |
| 2 | | | | | | | |
| 3 | | | | | | | |
| 4 | | | | | | | |
| 5 | | | | | | | |
| 6 | | | | | | | |




# МАЙ

Сонейка на небе цёпла ўсміхаецца, зялёная траўка кучаравіцца, дзе толькі вылезці змагла, працавіта птушкі шчабечуць, і ад усяго гэтага, ды ад радасці кожны чалавек гатоў вараб'ём падскакваць.

Нават чорныя вароны каркаюць весялей, чым заўсёды. Май прынёс прыродзе жыццё, радасць і надзею.

Людзі з надзеяй заглядваюць у будучыню і аглядваюцца на дасягненні. А гэтыя дасягненні часам і не заўважыш адразу.

Напрыклад, выпіваем куфаль піва, і не заўважаем, што піва цяпер моцнае. Некаторыя скептыкі ўсміхаюцца — якія ж у піве могуць быць дасягненні, а аказваецца справа тут важная.

Якасць прадукцыі расце ў нас і не толькі ў піве.

Мая баба, бывала, лаялася, як шавец, цыруючы мае шкарпэткі.

Цяпер баба не цыруе. Шкарпэткі ўмацаваны стылёнам, адну пару купіш і цэлы год носіш, пакуль самыя халяўкі не застануцца. А з гэтых халявак потым яшчэ можна навушнікі пашыць для кабылы, каб мухі не кусалі.

Ці вось у суседнім ГС-е пасадзілі малайца. За кратамі галубок варкуе, сустракаючы май, — і ў гэтым таксама дасягненне ёсць. Значыць, моцная ўлада, калі за парадак змагаецца і не дае абкрадваць грамадзян. Не ведаю, як чытачы, але я дык вельмі не люблю, калі мяне абкрадваюць.

Грошыкі ў нас таксама з'явіліся новыя: па два злотых і па пяць. Моцныя грошы: зубы паламаеш, і не разарвеш. Значыць, умацоўваюцца грошыкі народныя, і, аказваецца, і ў такіх дробязях праглядваюць клопаты аб чалавеку.

І сярод культурных дзеячоў назіраецца ажыўленне. Самыя што ні ёсць спячыя актывісты пачынаюць чырыкаць прыгожыя словы аб культуры на гёсцы. На носе ж Дні асветы і кніжкі!

А як культшарманку ні круці, лічбы паказваюць, што на галаву прыходзіцца выдаткаваных 49 грошай у год на закупку кніг.

Які працэнт у гэтым беларускай кнігі — лепш не лічыць, сораму менш будзе.

А зрэшты, не варта псуць маёвага настрою некультурнымі дадзенымі. Хто з вас, дарагія чытачы, не паспее выказацца з гэтай прычыны — не сумуйце.

Праз год усё паўтарыцца на культурным фронце і тады возьмеце голас па пытанню, якое мохам абрасло.

*Дзядзька Лявонь.*

— Чаму ў нас няма вугалю? Бацька ж наш шахцёр!

— Шахцёр, але беспрацоўны!

— Чаму беспрацоўны?

— Таму, што ў нас надта многа вугалю.

(ЛЕА ГАС — «Ойленшпігель»)



## КАПІТАЛІЗМ...



У масцы. Без маскі.

(«Дікобраз» — Прага)

### Ахова здароўя ў ЗША




— Паслухаем зараз, у якім стане ваша здароўе. («Перац»)



ХЕРЛУФ БІДСТРУП (Данія).
Пасля заканчэння школы.

## КАПЯЛЮШ у небяспецы

На апошнім з'ездзе беспрацоўных членаў прафсаюза AFL-CIO ў Вашынгтоне з прамовай да пяці тысяч сабраўшыхся выступіў міністр працы Мічэл, які абяцаў беспрацоўным лепшую будучыню. Ён абвясціў: «Да кастрычніка гэтага года працу атрымаюць тры мільёны рабочых».

А каб поўнасцю пераканаць у гэтым рабочых, Мічэл дадаў, што калі яго пропаведзь не спраўдзіцца, гатовы ён з'есці ўласны капялюш перад галоўным фасадам Міністэрства працы.

Абяцанні міністра Мічэла віламі па вадзе пісаны. Ужо сёння лік беспрацоўных ЗША складае каля 4,5 мільёна асоб. Эксперты прадбачваюць, што ў кастрычніку закончацца сезонныя працы і колькасць беспрацоўных значна павялічыцца.

Капялюш міністра Мічэла ў небяспецы.

А што будзе з жыватом пана міністра?...

У. Л.

### Сусветны каланіялізм...




Учора... Сёння... І заўтра!

(«Урзіка» — Бухарэст). (Румынія)